ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №81 (4439) СУБОТА, 8 кастрычніка 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

# ПІСЬМЫ НАСТАЎНІКАЎ

Шляхі будаўніцтва нацыянальнай школы і рэформы адукацыі — галоўная тэма пісьмаў педагогаў краіны ў рэдакцыю сваёй газеты. Розныя ў іх выказваюцца меркаванні і прапановы, аднак усе допісы яднае шчырая зацікаўленасць у рэальных пераменах да лепшага, заклапочанасць тым, каб беларуская адукацыйная сістэма адпавядала еўрапейскім і сусветным стандартам.

Сёння "Настаўніцкая газета" публікуе чарговую падборку пісьмаў настаўнікаў.

ПРАПАНУЮ

## ІУН ЦІ ІПК?

### МЭТАЗГОДНА ПАВЫСІЦЬ СТАТУС АБЛАСНЫХ ІУН, ПЕРАЎТВАРЫЎШЫ ІХ У ІНСТЫТУТЫ ПАВЫШЭННЯ КВАЛІФІКАЦЫІ

Інстытуты ўдасканалення настаўнікаў (ІУН) з'яўляюцца важным звяном у сістэме павышэння кваліфікацыі педагогаў. Таму рэформа адукацыі мяркуе іх сур'ёзную трансфармацыю.

Пачну з таго, што пагардлівыя адносіны да гэтых інстытутаў закладзены ў самой назве. На самай справе, паняцце "ўдасканаленне" хутчэй падыходзіць для тэхнікі, чым для людзей. Але справа не толькі ў гэтым. Называй хоць гаршчком, як кажуць, ды толькі ў печ не стаўляй. Сутнасць праблемы заключаецца ў тым, што ў цяперашні час у ІУН ключавымі з'яўляюцца метадысты і загадчыкі кабінетаў. Гэта, як правіла, вопытныя настаўнікі са шматгадовым стажам. Яны выконваюць вялікі аб'ём навучальна-метадычнай і дыспетчарскай работы. Разам з тым слабым месцам ІУН з'яўляецца недастаткова высокі ўзровень навуковых даследаванняў не толькі ў галіне распрацоўкі і прымянення эфектыўных педагагічных тэхналогій, але і па асобных прадметах. А калі ўлічыць тое, што былая саюзная акадэмія педагагічных навук, якая стваралася намаганнямі ўсіх рэспублік і сілкавала іх у сваю чаргу навуковай і метадычнай прадукцыяй, засталася ў Расіі, а эквівалентнай замены ў Беларусі няма да гэтага часу, то ў выніку гэтага губляецца стратэгічная перспектыва і праграміруецца адставанне адукацыі ад развітых краін, тармозіцца працэс фарміравання нацыянальнай школы.

Таму мэтазгодна павысіць статус ІУН, пераўтварыўшы іх у інстытуты павышэння кваліфікацыі з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі. Відавочна, што ІПК не павінны ўступаць педінстытутам па ўзроўню навукова-даследчай і навучальна-метадычнай работы, а ў некаторых галінах — і пераўзыходзіць іх. Акрамя таго, яны могуць стаць канкурэнтамі, а гэта таксама немалаважна.

Пераўтварэнне ІУН у ІПК мяркуе ўзрастанне ролі кафедраў і навукова-даследчых лабараторый. У Віцебскім ІУН, напрыклад, уяўляецца зусім натуральным выдзяленне кафедраў педагогікі, псіхалогіі, а таксама сацыяльна-эканамічнай падрыхтоўкі і працоўнага навучання. Калі выдзяленне першых дзвюх сумненняў не выклікае, то з'яўленне апошняй мае патрэбу ў каментарыях. Рэч ў тым, што дэградацыя эканомікі, паглыбленне крызісу ў Беларусі, апрача іншых прычын, тлумачацца яшчэ і нізкім узроўнем эканамічнай падрыхтоўкі насельніцтва. Ужо зразумела, што сур'ёзна пачынаць вывучэнне эканомікі неабходна ў школе, у тым ліку ў агульнаадукацыйнай, зрабіўшы гэты прадмет абавязковым. У сувязі з гэтым варта ўказаць на не зусім карэктную спробу ўключыць эканоміку ў якасці даважка да запланаванага курса гуманістыкі.

Дарэчы, аўтары гуманістыкі зводзяць вывучэнне эканомікі да набору абстрактных эканамічных паняццяў і практычна не ўлічваюць канкрэтна-гістарычныя асаблівасці сучаснага этапа развіцця Беларусі. Але ж эканоміцы любой краіны ўласцівы не толькі агульнае, але і асаблівае. У старэйшых класах вучні павінны атрымаць дастаткова поўнае ўяўленне аб эканамічнай рэформе, яе неабходнасці, асноўных мэтах ажыццяўлення і этапах, і паспрабаваць вызначыць сваю ролю ў эканамічных працэсах, выпрацаваць сучаснае эканамічнае мысленне. Па эканамічнай падрыхтоўцы вучняў і настаўнікаў, напрыклад, Расія намнога абагнала Беларусь і мае адпаведныя дапаможнікі і метадычныя матэрыялы. Але хто ж перашкаджае нам зрабіць тое ж самае? Мінула ж дастаткова часу для таго, каб усвядоміць сам факт суверэнітэту.

Трэба таксама тэрмінова рыхтаваць і настаўнікаў эканомікі. Вырашэнне такіх задач маглі б узяць на сябе не толькі педінстытуты і універсітэты, але і ІПК сіламі выкладчыкаў кафедраў сацыяльна-эканамічнай падрыхтоўкі і працоўнага навучання. Яны маглі б даваць спецыяльнасць настаўнік эканомікі ў якасці другой, напрыклад, настаўнікам гісторыі, геаграфіі і працоўнага навучання. А напачатку для выкладання эканомікі ў агульнаадукацыйных школах можна было б прыцягнуць прафесарска-выкладчыцкі састаў ВНУ і тэхнікумаў. Пры гэтым само сабой зразумела, аплачваць іх працу не ніжэй, чым па месцы асноўнай работы. Упэўнены, што тады жадаючыя навучыць эканоміцы школьнікаў знойдуцца. Акрамя таго, у гэтым выпадку ўдалося б больш поўна рэалізаваць прынцып пераемнасці адукацыі ў школах і ВНУ.

ІПК павінны быць больш самастойнымі ў сваіх дзеяннях, чым ІУН, і, напрыклад, на аснове агульнай канцэпцыі адукацыі маглі б распрацоўваць канцэпцыі і праграмы, якія ўлічваюць спецыфіку рэгіёна.

Пры ІПК карысна было б мець ліцэі, спецыялізаваныя класы і г.д.

Рэфармуючы ІУН у ІПК вельмі важна не выліць разам з вадой і дзіця, захаваўшы вопытных метадыстаў, без якіх існаванне ІПК такога тыпу немэтазгодна наогул.

Пераўтварэнне ІУН у ІПК, вядома, запатрабуе і дадатковага фінансавання, але танная адукацыя гэта, у канчатковым выніку, — хворае грамадства.

**Валерый ЯНЧУК,**
**дацэнт Віцебскага абласнога ІУН, кандыдат эканамічных навук.**

НАБАЛЕЛА!

## БЕДНАЯ БІЯЛОГІЯ

### ПАВЯРХОЎНАЕ ВЫВУЧЭННЕ БІЯЛОГІІ НЕ ПРЫНОСІЦЬ ЗАДАВАЛЬНЕННЯ НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКАМ, АЛЕ І БОЛЬШАСЦІ ВУЧНЯЎ

ЦІ быць настаўніку біялогіі ў сельскай базавай школе? Пытанне, якое я паставіў у самым пачатку, думаю, не рытарычнае, а мае пэўны сэнс. Я глыбока перакананы, што біялогія, як школьны прадмет, знікае са школы.

На вывучэнне біялогіі адводзіцца 9 гадзін у тыдзень (6,5 гадзін — БШ, 2,5 гадзіны — СШ). Вось чаму вельмі цяжка настаўніку біялогіі ў пачатку навучальнага года, каб набраць неяк ставачку (хімія, сельскагаспадарчая праца і многія, многія іншыя прадметы).

Выклікае трывогу і спроба ўвядзення інтэграванага курса, які аб'яднаў бы біялогію, хімію, фізіку, геаграфію, астраномію. Гэты курс, якую б цудоўную назву не меў, уяўляе сабой штучную сумесь прыродазнаўчых навук. Трэба помніць, біялогія — унікальная, шматгаліновая навука, мае свой прадмет даследавання, методыку выкладання, практычную накіраванасць. Настаўнік, які будзе весці гэты курс, будзе ведаць трохі аб усім, і нічога, як належыць. Навуковасць і дасканалае валоданне прадметам — асноўныя крытэрыі паспяховага выкладання прадмета.

І яшчэ пытанне: хто будзе весці даны курс? Фізік, біёлаг, географ?.. Я за інтэграваныя курсы, яны павінны вывучацца ў сярэдняй школе, пры ўмовах дыферэнцыраванага навучання, на добраахвотнай аснове. Курсы павінны мець толькі і толькі навуковую выснову (радыёбіялогія, малекулярная біялогія, біятэхналогія, цітагенетыка і іншыя).

Цяжка становіцца на душы, калі таленавітыя вучні, якія скончылі звычайную сельскую школу, не могуць па конкурсу прайсці ў ВНУ на біялагічныя факультэты. Як глядзець у вочы іх бацькам, што ім адказаць? Можна знайсці мноства прычын, але галоўная, на мой погляд — сучасны стан біялогіі ў школе, бедны набор дадатковай літаратуры па прадмету, невысокая якасць падручнікаў. Трэба памятаць, што базавая школа з'яўляецца падмуркам для сельскагаспадарчых і медыцынскіх тэхнікумаў і вучылішчаў і як процілеглае: у развітых краінах Еўропы, ва ўсіх тыпах школ, біялогія з'яўляецца абавязковым прадметам. Прыгадаем, што ў ЗША ў 60-ыя гады была значна павялічана колькасць гадзін на вывучэнне біялогіі. А што наша Беларусь? Яна мае унікальную флору і фауну. Флора складае 1600 відаў кветкавых раслін, 500 відаў лішайнікаў і столькі ж імхоў, 75 відаў дрэў, мноства грыбоў. Між тым на вывучэнне сістэматыкі кветкавых раслін (6 клас) адводзіцца ажно... 6 гадзін... Зніклі з вывучэння курса заалогіі тыпы "Губкі", Ігласкурэння. Такіх прыкладаў можна прывесці мноства. Павярхоўнае вывучэнне біялогіі не прыносіць задавальнення не толькі настаўніку, але і большасці вучняў. Наша краіна знаходзіцца пад моцным ціскам Чарнобыля, хімізацыі. Мая родная Брэстчына дадаткова "прыціснула" сябе жывёлагадоўчымі комплексамі. Згодзен з вывадамі вучоных, неабходна ажыццяўляць навукова абгрунтаваную праграму экалагічнага выхавання: дзіцячы садок—школа—сярэднія спецыяльныя установы—ВНУ. Трэба весці экалагічнае навучанне і выхаванне ў школе не на лозунгах, закліках, а на навуковай аснове, з практычнай накіраванасцю. Мы сталі на шлях незалежнасці, жыццё, навуковая дзейнасць, любоў да Радзімы беларускіх вучоных-біёлагаў (А.Р.Жэбрак, В.Ф.Купрэвіч і іншыя) павінны стаць прыкладам для моладзі, выхавання патрыятызму. Вельмі і вельмі мала ведаем пра вучоных-біёлагаў і селекцыянераў, якія ўнеслі важкі ўклад не толькі ў айчынную, але і ў сусветную навуку. Значэнне біялогіі ўзрастае. Многія вядомыя вучоныя лічаць, XXI стагоддзе — стагоддзе біялогіі. Вось чаму патрэбны радыкальныя змены пры вывучэнні біялогіі ў школе.

На мой погляд, вывучэнне біялогіі варта пачаць з пятага класа. Шматгадовыя назіранні паказваюць, што сучасны інтэлект вучняў, іх любоў да раслін дае падставу для паспяховага засваення гэтага прадмета. У кожным класе павінна быць, як мінімум, 2 гадзіны на вывучэнне біялогіі.

У сувязі з тым, што наша дзяржава знаходзіцца ў зоне экалагічнага бедства, тэрмінова трэба ўвесці ў 9-м класе "Асновы экалогіі".

Мне могуць запярэчыць, маўляў, школьны расклад не гумавы. Але ж знайшлі дадатковы час на фізкультуру. Школьны кампанент знаходзіцца ў руках адміністрацыі школы, і ідзе механічнае размеркаванне гадзін.

Бедная біялогія, на сваім шляху бачыла ўзлёты (у 20—30-ыя гады ў Саюз прыязджалі вучыцца амерыканцы, англічане, балгары), потым доўгі час знаходзілася пад пятой "школы Лысенко". І вось некалькі гадоў мяне мучыць пытанне, па чыёй віне яна стала ў школе другарадным прадметам? Хто мне адкажа?

Набліжаецца рэформа сістэмы адукацыі і хочацца верыць, біялогія зойме дастойнае месца. Вось такія думкі ў сельскага настаўніка з глыбінкі.

**Фёдар БЯЛІГА,**
**настаўнік біялогіі Грушаўскай базавай школы Кобрынскага раёна.**

А ВАША ДУМКА?

## Меншай колькасцю, але большай якасцю

### ЯК ПАВЫСІЦЬ ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ДЗЕЙНАСЦІ РАЁННАГА АДДЗЕЛА АДУКАЦЫІ

Зараз адбываецца рэфармаванне органаў кіравання. Дазвольце мне, на аснове 23-гадовага вопыту работы ў навучальных установах і аддзеле адукацыі падзяліцца сваімі меркаваннямі наконт таго, якім павінны быць раённы аддзел адукацыі.

Састаў і функцыі аддзела:

загадчык, без намеснікаў (іх да "чарненкаўскай" рэформы ніколі не было).

Аддзел павінен займацца ў асноўным арганізацыйнымі пытаннямі і вывучэннем стану спраў. Метадычныя кабінеты, існуючыя зараз у раёнах, непатрэбны (яны ўжо некалькі гадоў ліквідаваны ў Брэсцкай вобласці, няма іх і за мяжой). Усе астатнія функцыі выконваюць 5 спецыялістаў.

1. Спецыяліст па сацыяльнай ахове дзяцей (пытанні апекі, папячыцельства і аздараўлення абяздоленых дзяцей за мяжой, якія жывуць у чарнобыльскай зоне).

2. Па арганізацыі і правядзенні раённых выхаваўчых пазашкольных мерапрыемстваў (агляды, конкурсы, алімпіяды, выставы і г.д.). Ён жа займаецца аздараўленнем і летнім адпачынкам дзяцей у межах Беларусі і былога СССР.

3. Спецыяліст, які займаецца курсавой перападрыхтоўкай, павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў і кіруючых кадраў. Ён жа арганізуе і кантралюе міжшкольныя і раённыя метадычныя аб'яднанні настаўнікаў усіх прадметаў. Як бачна, метадычная работа зусім згорнутай не застаецца. Метадычнай работай з маладымі і настаўнікамі з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй займаецца кіраўніцтва школы.

4. Спецыяліст па ўсенавучу (падвоз вучняў, работа школьных сталовых, інтэрнатаў, ГПД, вячэрніх і завочных школ, правядзенне экзаменаў, выдача бланкаў дакументаў аб адукацыі). Ён каардынуе з органамі ўнутраных спраў работу з цяжкавыхоўваемымі дзецьмі.

5. Спецыялісту па кадрах даручаецца займацца камплектаваннем кніжных фондаў і падручнікаў.

Вось і ўся структура сярэдняга па памерах аддзела. Гаспадарчыя пытанні вырашаюцца мабільнай гаспадарчай групай, якія ёсць і зараз пры аддзелах. Непасрэдна кіруе яе работай не намеснік загадчыка, а адзін з інжынераў, якому робіцца адпаведная даплата.

Так званыя школьныя фільматэкі з цяперашнімі штатамі непатрэбныя, трэба пакінуць толькі аднаго лабаранта, якога ўвесці ў штат гаспадарчай групы, ён і будзе рабіць прыём-выдачу кінафільмаў, іх перамотку і дробны рамонт фільмаў і абсталявання.

Лічу, што ў раёнах неабходна яшчэ наступная структура:

Незалежная ад аддзелаў раённая інспекцыя адукацыі, якая падпарадкоўваецца абласному ўпраўленню або міністэрству, або Дзяржінспекцыі па справах адукацыі ў складзе 3—5 інспектараў, якія працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам галоўнага інспектара. У іх функцыі ўваходзіць ажыццяўленне дзяржкантролю па выкананні на месцах Закона аб адукацыі, нарматыўных актаў Кабінета міністраў, Міністэрства адукацы і навукі, мясцовых органаў, кантроль за работай аддзела, адміністрацый школ па арганізацыі і кіраўніцтву навучальна-выхаваўчым працэсам. Правядзенне па ўсіх прадметах кантрольных работ і зрэзаў з наступным аналізам.

Права інспектараў — па канчатковых выніках работы даваць ацэнку працы настаўнікаў, дырэкцыі навучальных устаноў.

Заключэнне інспекцыі з'яўляецца абавязковым для выканання мясцовымі органамі кіравання адукацыяй.

У выніку прапануемай схемы раённага звяна, колькасць работнікаў памяншаецца больш чым на 30 працэнтаў, а эфектыўнасць ад дзейнасці новых структур будзе значна вышэйшай.

Прашу гэтыя прапановы лічыць меркаваннямі прыватнай асобы.

**Павел КАРПЕЦ,**
**спецыяліст-арганізатар аддзела адукацыі Лунінецкага райвыканкама.**

ДАЎНО ХАЧУ СКАЗАЦЬ

## ШТО ТАКОЕ "СЛОН"

### УРОКІ ТУРЫЗМУ ВАРТА ЎКЛЮЧЫЦЬ У ПРАГРАМУ ФІЗІЧНАГА ВЫХАВАННЯ

"Ён нагадвае слуп!" — сказаў адзін, абхапіўшы нагу слана. "Не, вяроўку!" — запярэчыў другі, трымаючыся за хвост. "Бадай, гэта пітон!" — вырашыў трэці, абмацваючы звілісты хобат. "Хутчэй гэта скураны кацёл, які вісіць у паветры!" — сказаў чацвёрты, пагладжваючы пуза слана. Па адной з версій гэтай індыйскай прытчы аб сляпцах, якія жадалі даведацца як выглядае слон, яны ў выніку пабіліся, адстойваючы кожны сваю думку.

Мне ніколі не даводзілася бачыць (або хаця б чуць), каб хто-небудзь пабіўся, адстойваючы сваю думку, сваё разуменне таго, што ёсць турызм. Але непаразуменняў, звязаных з аднабаковымі поглядамі на змест турысцкай дзейнасці, — колькі хочаце. Прывяду толькі адзін прыклад — праект Закона аб турызме, у якога, як відаць, былі толькі два аўтары, бо ў праекце знайшлося месца толькі для двух (з чатырох!) відаў турысцкай дзейнасці — для турызму дзелавога (у нас ён пакуль прадстаўлены адной формай — так званым шоп-турызмам, літаральна — магазінна-рыначным "турызмам"), а таксама для турызму эскурсійнага. Складальнікі праекта Закона аб існаванні актыўных відаў турысцкай дзейнасці — турызму аздараўленчага і турызму спартыўнага, — відаць, не падазраюць (можа, і здагадваюцца, але лічаць такую дзейнасць некамерцыйнай, а значыць недастойнай увагі). Гэта той выпадак, калі я (у каторы ўжо раз!) падумаў, што для людзей, занятых падрыхтоўкай законаў і іншых важных дзяржаўных дакументаў, а таксама прымаючых рашэнні па пытаннях, у якіх яны проста-такі некампетэнтныя, было б няблага час ад часу праводзіць "лікбезы". Што ж датычыцца актыўнай, спартыўна-аздараўленчай турысцкай дзейнасці, то добра было б, вядома, знаёміць з такой яшчэ ў школе. Гэта тым больш важна, што прафесійнай турысцкай адукацыі на тэрыторыі былога СССР ніколі не было, а таму не было адпаведных падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, якія дапамаглі б разабрацца ў тым, што такое "слон".

Турызм — не панацэя, а толькі складовая частка выхавання (у тым ліку і фізічнага, і экалагічнага, і патрыятычнага, і сацыяльна-псіхалагічнага), адукацыі, а таксама і сістэмы аздараўлення. Тое, што яшчэ няма адзінай дзяржаўнай канцэпцыі аздараўлення нацыі і перш за ўсё — яе будучыні, сённяшніх школьнікаў (не будзем забываць, што дзеці, якія нарадзіліся ў 1986 годзе, сёлета пайшлі ўжо ў другі клас), — гэта дрэнна. Але гэта зусім не азначае, што трэба чакаць, калі яна будзе. Канцэпцыя аздараўлення ў любым выпадку шматаспектная. І тое, што можна рабіць ужо цяпер, трэба рабіць. Не аўтару артыкула гаварыць чытачам газеты — педагогам усіх узроўняў, — як важна быць здаровым, каб добра і з радасцю вучыцца. Ва ўсе часы навучэнскай моладзі — ад першакласніка да выпускніка ВНУ, які рыхтуецца да дзяржаўных экзаменаў, — неабходны здаровы лад жыцця.

Сённяшнім нашым школьнікам, стан здароўя якіх ужо не патрабуе абмеркавання, а неадкладнага выкарыстання ўсіх даступных сродкаў для яго паляпшэння, патрэбна пастаянна, з дня ў дзень! — найэфектыўнейшая сістэма аздараўлення: на перапынках, пасля ўрокаў, у выхадныя дні і асабліва інтэнсіўная — у перыяды канікулаў. Не толькі летніх, але і восеньскіх, і зімовых, і веснавых. Сістэма прадуманая, навукова абгрунтаваная, тэхналагічна пісьменная, забяспечаная простымі ў выкананні і надзейнымі метадамі кантролю.

Актыўныя формы турысцкай дзейнасці выдатна ўпісваюцца ў гэтую сістэму. Але іх рэалізацыя патрабуе захавання і выканання пэўных умоў (зрэшты, як для любых іншых відаў чалавечай дзейнасці). Каб турысцкія мерапрыемствы (аздараўленчыя і спартыўныя паходы, турысцкія гульні і спаборніцтвы па турысцка-прыкладных мнагабор'ях) былі карыснымі ў аздараўленчым, выхаваўчым і пазнавальным плане, іх удзельнікі, — у нашым выпадку гэта школьнікі, — павінны быць да іх падрыхтаванымі, г.зн. яны павінны валодаць неабходнымі ведамі, уменнямі і навыкамі. Але пералічаныя мерапрыемствы — гэта формы пазакласнай работы, адукацыйная задача якіх — ва ўдасканаленні навыкаў. Атрымліваць жа неабходныя турысцкія веды і ўменні трэба на ўроках турызму, якія варта ўключыць ў праграму фізічнага выхавання. Мною такі раздзел праграмы распрацаваны. Ён змяшчае ўсяго 36 урокаў — па шэсць у год з 4-га па 9-ы клас уключна. Калі ў "дарэформенныя" часы (маецца на ўвазе "рэформа сярэдняй школы") быў толькі адзін урок фізкультуры ў тыдзень, або 40—45 урокаў у год, то "забраць" шэсць з іх на турызм — было ўвогуле немагчыма. Зараз, калі новай праграмай прадугледжаны ўжо тры ўрокі, урокі па турызму маглі б істотна ўзбагаціць праграму, зрабіць яе больш разнастайнай.

Уявім сабе, што з гэтай ідэяй абсалютна ўсе згадзіліся. І што ж? Праводзіць ўрокі турызму сёння няма каму: настаўнікі гэтага зрабіць не змогуць, паколькі іх не вучылі, — у школьнай праграме ўрокі турызму не прадугледжаны, значыць і ў вузаўскай — адпаведна. Ды і навошта будучага настаўніка фізкультуры вучыць методыцы правядзення ўрокаў турызму, калі, на думку "тэарэтыкаў" з былога БДІФК (а цяпер Акадэміі) — прыводжу даслоўна — "прыйсці ў лес, паставіць палатку, распаліць вогнішча любы дурань зможа". Прыведзеная "формула" — гэта такі ж турызм, як каструля з вадой — гэта абед. Сёння вучыць будучага настаўніка турызму няма каму, бо шматгадовыя намаганні аўтара, які дабіваўся адкрыцця спецыялізацыі па турызму ў інстытуце фізкультуры для падрыхтоўкі выкладчыкаў турызму як для самога інстытута, так і для факультэтаў фізвыхавання педагагічных ВНУ, а таксама для найбольш буйных станцый (цяпер яны называюцца цэнтрамі) дзіцяча-юнацкага турызму, закончыліся нулявым вынікам. Тады гэта было нікому не патрэбна. Баюся, што і сёння таксама.

Самыя аптымістычныя прагнозы дазваляюць ацаніць час, неабходны для стварэння завершанай сістэмы прафесійна-педагагічнай (тое ж датычыцца і прафесійна-менеджэрскай — для камерцыйных відаў турысцкай дзейнасці) турысцкай адукацыі з падрыхтоўкай высокаадукаваных, высокакваліфікаваных спецыялістаў, прыкладна ў 7—8 гадоў. На жаль, гэта будзе ўжо XXI стагоддзе. Восем гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы ўжо прайшло, — чакаць яшчэ столькі ж? Ці няма шляхоў, якія б паскаралі працэс падрыхтоўкі школьнага настаўніка да правядзення на высокім узроўні як урокаў турызму, так і пазакласнай турысцкай работы? Такі шлях ёсць: ажыццяўленне працэсу павышэння турысцкай кваліфікацыі настаўніка. Гэта праграма таксама распрацавана ў дэталях. Пытанне толькі ў тым, хто яе будзе выконваць? Па ўказаных вышэй прычынах Акадэмія фізічнага выхавання і спорту (нават калі яе прымусяць) зрабіць гэтага не зможа. Значыць, пакуль патрэбны іншыя варыянты.

У нас ёсць Беларускі інстытут турызму, які створаны яшчэ ў "даперабудовачныя" часы і займаўся перападрыхтоўкай і павышэннем кваліфікацыі работнікаў турысцкай галіны (падкрэсліваю — галіны, а не падрыхтоўкай педагагічных кадраў, аб якіх ідзе размова). Пасля "перабудовы" і ўсеагульнага развалу інстытута са штатам цяпер ужо ў тры чалавекі засталося толькі займацца камерцыйнымі турамі і чакаць лепшых часоў. Ці варта чакаць? Дырэктар інстытута Зоя Міхайлаўна Гарбылёва паўтара года змагаецца за аднаўленне статуса інстытута як навучальнай установы. Даўно ўжо распрацаваны планы і навучальныя праграмы, вызначана стратэгія станаўлення інстытута як вышэйшай турысцка-педагагічнай навучальнай установы. Аднак у Міністэрстве адукацыі дырэктару інстытута было сказана цвёрда і выразна:"Перападрыхтоўкай і павышэннем кваліфікацыі работнікаў вашай турысцкай галіны вам, напэўна, будзе дазволена займацца. А настаўнік — не ваш клопат".

Паколькі я даўно ўжо не маю ніякіх ілюзій, распрацаваў яшчэ адзін варыянт: праводзіць семінары з настаўнікамі сваімі сіламі, напрыклад, сіламі Бюро спартыўнага і прыгодніцкага турызму (прадпрыемства вельмі маленькае і зусім не камерцыйнае) з прыцягненнем вопытных інструктараў-метадыстаў спартыўнага турызму (пакуль яны яшчэ ёсць). Сабраць на першы семінар, скажам, чалавек сорак з ліку найбольш вопытных, і, шчыра скажам, фанатычных педагогаў школ і цэнтраў дзіцяча-юнацкага турызму. Потым кожны з іх правядзе такі семінар у сваім раёне самастойна. За тры цыклы можна практычна ахапіць усю Беларусь. Але грошы ўсё ж патрэбны — без гэтых самых "зайчыкаў" зрабіць нічога нельга...

Навучальна-метадычны кабінет Дзяржкамспорту прыняў найжывейшы ўдзел у спробе дапамагчы ажыццяўленню праграмы, якая ўключае як непасрэдныя мерапрыемствы са школьнікамі, так і перападрыхтоўку настаўнікаў. Былі мы з гэтай праграмай і ў Дзяржкамчарнобылі. Але там адказалі проста і немудрагеліста: "Нам і на свае праграмы грошай не хапае". Ну, што ж, зусім магчыма, што не хапае — грошай заўсёды і ўсім не хапае. І праграмы, трэба меркаваць, у Дзяржкамчарнобыля ёсць. А што да Дзяржкамспорту непасрэдна, то і ў Дзяржкамспорце грошай таксама не хапае — і работнікаў шмат, і каманды ў Ліліхальмер на зімовую Алімпіяду адпраўляць трэба, і не толькі каманды...

Але вернемся да сістэмы павышэння кваліфікацыі, якой бы добрай яна не была, слухачам неабходны навучальныя дапаможнікі (для рэалізацыі сваёй "павышанай кваліфікацыі" ), такой якасці, якія не толькі дапамогуць у рабоце, але і... дазволяць наогул абысціся (прынамсі — пакуль) без "павышэння кваліфікацыі". Значыць, пачынаць трэба з навучальнага дапаможніка "Урокі турызму". Гэту ідэю актыўна падтрымаў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій С.Мітраховіч, а затым і Навукова-метадычны цэнтр навучальнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі. Зразумела, выданне кнігі патрабуе пэўных сродкаў, якіх ох як не хапае сістэме адукацыі. Думаю, што была б зусім не залішняй дапамога фонду Сораса—Беларусь. Тым больш, што гутарка ідзе ў канчатковым выніку пра аздараўленне дзяцей. На жаль, разумення там я пакуль не знайшоў: прадстаўленыя мной матэрыялы, як мне паведамілі, не разглядаліся, маўляў, усё гэта да гуманітарнай галіны адносіны не мае. Дзіўна, няўжо не ведаюць эксперты фонду, што існуюць "пагранічныя галіны", і такіх значна больш, чым "чыстых"...

Навучальны дапаможнік для настаўнікаў школы і педагогаў пазашкольных устаноў "Урокі турызму" усё ж рыхтуецца да друку. Ён будзе мець чатыры раздзелы: змест і методыка правядзення ўрокаў турызму; змест і методыка арганізацыі і правядзення пазакласнай турысцкай работы; методыка правядзення спецыялізаванай (для прафарыентацыі) сярэдняй турысцкай падрыхтоўкі — гэтыя раздзелы забяспечаны задачамі, практыкаваннямі і анатаванымі бібліяграфічнымі ўказальнікамі; дадатак, які змяшчае ўсе неабходныя праграмна-нарматыўныя дакументы па турысцкай рабоце.

**Уладзімір ГАНАПОЛЬСКІ,**
**прэзідэнт Федэрацыі спартыўнага турызму Беларусі, майстар спорту.**

